*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 40 (252)

4 кастрычніка 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

ЯДНАННЕ Стар. 6.

БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ ПОЙДЗЕ Ў СВЕТ Стар. 7.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **СТАРАЖЫТНАМУ НАВАГРАДКУ СПОЎНІЛАСЯ 950 ГАДОЎ!**

○ ***НАВЕДАЎШЫ РАСІЮ І УКРАІНУ, ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА Ў ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМІ СКАЗАЎ:*** *«Ні пра якія аб'яднальныя саюзы размова не ідзе. Сёння для нашых краін самае галоўнае — развязаць эканамічныя вузлы, якія не даюць магчымасці нармальна функцыянаваць прадпрыемствам, зарабляць людзям. Неабходна, каб адбылося паляпшэнне якасці жыцця. Інакшай у імя каго ж мы ажыццяўляем уладу? Важна, каб кожны чалавек адчуў сябе хоць крыху больш шчаслівым і бяспечным. Што ж датычыць палітычнага боку жыцця нашых краін, то тут — поўная незалежнасць адна ад адной, дзяржаўны суверэнітэт». Хочацца верыць, што гэта не пустыя словы.*

○ **ПАДЧАС ПЛЕНАРНАГА ПАСЯДЖЭННЯ 49-Й СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН ПРЫНЯТА РЭЗАЛЮЦЫЯ** аб скарачэнні ўзносаў Беларусі на аперацыі па падтрыманні міру. З групы «B» шкалы ўзносаў Беларусь на працягу 4 гадоў (да 1999 года) паэтапна будзе пераведзена ў групу «С». Да канца пераходнага перыяду сума ўзносу паменшыцца ў 5 разоў.

○ ***АДКАЗВАЮЧЫ НА ПЫТАННЕ АБ ЗАКАНАДАЎСТВЕ, ШТО РЫХТУЕЦЦА, У АДПАВЕДНАСЦІ З ЯКІМ АНГЛІЙСКАЯ МОВА АТРЫМАЕ АФІЦЫЙНЫ СТАТУС ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВЫ,*** *у сувязі з чым, магчыма, спыняць сваё існаванне вучэбныя праграмы, якія прадугледжваюць навучанне на іншых мовах, прэс-сакратар Белага дома Маккэры сказаў, што Клінтан не падтрымлівае ніводны законапраект і занепакоены тым расколам у амерыканскім грамадстве, да якога могуць прывесці падобныя меры. А ў нас праводзяцца рэферэндумы... Праўда, Беларусь гэта не ЗША і Клінтан не наш прэзідэнт.*

○ **ПАНІ ЭЛЬЖБЕТА СМУЛЭК — ВЯДОМЫ Ў ПОЛЬШЧЫ БЕЛАРУСІСТ, ЯКАЯ АПОШНІЯ ЧАТЫРЫ ГАДЫ БЫЛА НАДЗВЫЧАЙНЫМ І ПАЎНАМОЦНЫМ ПАСЛОМ СУСЕДНЯЙ ДЗЯРЖАВЫ Ў НАШАЙ КРАІНЕ, ВЯРТАЕЦЦА НА РАДЗІМУ.** Яна зноў будзе прафесарам Варшаўскага універсітэта і зноў прысвеціць сябе вывучэнню і прапагандзе беларускай культуры.

○ ***З КАСТРЫЧНІКА ПРАЦЯГНУЛА ПРАЦУ ВАСЕМНАЦЦАТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.*** *Дэпутатам прапанавана абмеркаваць звыш дваццаці праектаў законаў.*

○ **НА ЖНІВЕНЬ ГЭТАГА ГОДА Ў КРАІНЕ БЫЛО 1745 СТРАТНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ** (або 20,2 працэнта ад улічанай колькасці), агульная сума страт на якіх склала 1,8 трыльёна рублёў.

○ ***У СТУДЗЕНІ—ЖНІЎНІ 1995 ГОДА ГРАМАДЗЯНАМІ БЕЛАРУСІ ПРЫВАТЫЗАВАНА*** *78,5 тысячы кватэр у дамах дзяржаўнага і грамадскага жылога фонду агульнай плошчай 4 млн. кв. м, у той час як у студзені—жніўні 1994 года — 1245,7 тысячы кватэр.*

# *Сардэчна вітаем удзельнікаў IV з'езда ТБМ, годных абаронцаў святога скарбу народа — яго мовы!*






У Менскім Доме літаратара 20 верасня адбылася вечарына, прысвечаная 50-годдзю адкрыцця Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. У вестыбюлі была наладжана выстава дакументаў, фотаздымкаў ды кніг з Купалавага дома.

Спачатку ў зале паказвалі слайды — беларускія краявіды, гучала песня «Янка Купала» ў выкананні А.Ярмоленкі. Пасля Антаніна Хатэнка, якая вяла вечарыну, запрасіла на сцэну ганаровых гасцей, якія спрычыніліся да дзейнасці купалаўскага музея. Гледачы ўбачылі на экране фатаграфіі вялікага беларускага песняра, зробленыя ў розныя гады ад часоў ягонай маладосці да апошніх гадоў. Гучалі народныя мелодыі, вершы паэта, зачыталі віншавальную тэлеграму ад Мечыслава Грыба.

Ніл Гілевіч звярнуўся да ўсіх, хто шануе Купалаву спадчыну. Паводле словаў старшыні ТБМ, пры слове музей мы ўяўляем рукапісы, фотаздымкі, але ж трэба ўяўляць людзей, якія шукаюць, збіраюць гэтыя экспанаты. Як сказаў Ніл Гілевіч, чаго была б вартая дзяржава, якая б не клапацілася пра музей.

Дарэчы, музею на вечарыне падаравалі цікавыя экспанаты, карціны. Віншаванні з юбілеем былі перададзены ад Данілы Міцкевіча (сына Якуба Коласа), Алеся Барскага, Максіма Лужаніна, Міхаіла Чыгіра.

У выкананні І.Краснадубскага гучала песня на словы Купалы «Спадчына».

Выступалі таксама В.Каваленка, А.Мальдзіс, Р.Гарэцкі, В.Коўтун, В.Іпатава... Артыст В.Манаеў чытаў урыўкі з маналогаў Мікіты Зносака (п'еса Янкі Купалы «Тутэйшыя»). Гледачоў парадавалі «Менскі гармонік», «Валачобнікі». У канцы ж гучалі песні ў выкананні славутых «Сяброў».

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**



У Першамайскім раённым судзе г.Менска завяршыўся судовы працэс па позве лідэра БНФ Зянона Пазьняка да кінарэжысёра Юрыя Азаронка, фірмы «Шэнка» і Белтэлерадыёкампаніі.

Суд прызнаў, што матэрыялы фільма «Ненависть: дети лжи» не адпавядаюць сапраўднасці і зневажаюць гонар і годнасць Зянона Пазьняка. Суд пад старшынствам народнага суддзі Алы Яшчанка абавязаў Нацыянальную тэлерадыёкампанію Беларусі аб'явіць пра гэта ў адной з інфармацыйных тэлепраграм.

Фотаздымак Ул.Карміпкіна зроблены ў зале суда падчас перапынку. На пярэднім плане — З.Пазьняк. Побач — Ю.Азаронак.

*Наш каляндар*

## Чужая вайна

*(З нагоды бітвы пры Лясной)*

295 гадоў таму назад пачалася Паўночная вайна (1700—1721), многія падзеі якой адбываліся на Беларусі. Гэтую вайну вяла кааліцыя еўрапейскіх дзяржаваў (Расія, Данія, Саксонія) супраць Швецыі за пануючае становішча ў балтыйскім рэгіёне. Расія імкнулася забяспечыць сабе выйсце да Балтыйскага мора. Саксонскі курфюрст Аўгуст II жадаў захапіць прыбалтыйскія землі (тэрыторыю сучасных Эстоніі і Латвіі) і тым самым умацаваць сваё становішча ў Рэчы Паспалітай, каралём якой ён быў абраны ў 1697 годзе. Што тычыцца Даніі, дык яна гатова была падтрымаць любую кааліцыю супраць свайго даўняга саперніка — Швецыі.

З волі магутных суседзяў Рэч Паспалітая (а яе часткай была і Беларусь) у 1704 г. аказалася ўцягнутай у вайну супраць Швецыі. Яе тэрыторыя, а галоўным чынам беларуская зямля, на доўгія гады стала асноўным тэатрам ваенных падзей. Пануючы клас краіны падзяліўся на два варожыя лагеры — прыхільнікаў Швецыі і прыхільнікаў Расіі. Утрыманне шматтысячных армій Швецыі і Расіі забяспечвалася пабораміз мясцовага насельніцтва. Вайна прынесла велізарныя страты і вызначыла далейшы трагічны лёс краіны. На Беларусі былі разбураны і спалены дзесяткі гарадоў, сотні вёсак, **загінуў кожны трэці жыхар Беларусі.**

Спачатку поспех быў на баку Швецыі. У жніўні 1700 г. капітулявала Данія. У лістападзе 1700 г. расійская армія была разбіта пад Нарваю, улетку 1701 г. шведы разграмілі саксонцаў пад Рыгаю. У пачатку 1706 г. каля Гародні трапіла ў акружэнне 60-тысячная расійская

*(Працяг на с.2.)*

## Даты і падзеі ў кастрычніку

**4 кастрычніка** — 245 гадоў з дня нараджэння Ф.Д.Князьніна (1750—1807), паэта, драматурга, перакладчыка, збіральніка беларускага фальклору.

**5 кастрычніка** — 75 гадоў з дня нараджэння Дж.Мулдагаліева, казахскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

**8 кастрычніка** — 65 гадоў з часу выхаду ў свет першага зборніка вершаў А.А.Куляшова «Росквіт зямлі».

**11 кастрычніка** — 70 гадоў з часу выхаду ў Менску (кастрычнік 1925 г.) першага нумара краязнаўчага часопіса «Наш край» (з 1930 г. «Савецкая краіна», выходзіў да студзеня 1933 г.).

**14 кастрычніка** — 80 гадоў з дня нараджэння У.І.Краўчанкі (1915—1961), беларускага пісьменніка.

**16 кастрычніка** — 40 гадоў з дня адкрыцця (1955) Ашмянскага краязнаўчага музея імя Ф.К.Багушэвіча (заснаваны ў 1952 г.).

**17 кастрычніка** — 115 гадоў з дня нараджэння Н.Ван-Вэйка (1880—1941), галандскага мовазнаўца-славіста, даследчыка беларускай мовы.

**18 кастрычніка** — 415 гадоў з часу нараджэння Лявонція Карповіча (1580—1620), беларускага царкоўнага дзеяча, пісьменніка-публіцыста.

**20 кастрычніка** — 75 гадоў з дня нараджэння С.Л.Дорскага (1920—1991), беларускага перакладчыка.

**22 кастрычніка** — 60 гадоў з дня нараджэння Б.І.Алейніка, украінскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

**24 кастрычніка** — Міжнародны дзень Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**25 кастрычніка** — 60 гадоў з дня нараджэння У.А. Паўлава, беларускага пісьменніка.

**26 кастрычніка** — 90 гадоў з дня нараджэння К.М.Цітова (1905 — 1972), расійскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

**27 кастрычніка** — 85 гадоў таму ў выдавецтве А.Грыневіча ў Пецярбургу выйшаў зборнік Я.Купалы «Гусляр».

**31 кастрычніка** — 90 гадоў таму (1905) у Менску адбыўся Курлоўскі расстрэл (забіта больш за 80 чалавек і некалькі соцень паранена). Царскія войскі разагналі дэманстрацыі і мітынгі ў Віцебску, Полацку, Смаргоні.

*ТБМ: рыхтуемся да з'езда*

## БЕЛАРУСІ ЖЫЦЬ НАКАНАВАНА...

Чарговы IV з'езд Таварыства беларускай мовы пачынае сваю працу ў нялёгкі для Бацькаўшчыны час. Не толькі нацыянальна-культурнае адраджэнне, але і незалежнасць Рэспублікі Беларусь пад пагрозай. Хаатычная «артпадрыхтоўка» ворагаў беларушчыны па беларускім нацыянальным доме скончылася. За год дзейнасці інстытута «народнага» прэзідэнта сфармавалася адмысловая «пятая калона» з ліку ўсялякіх «саюзаў», «сабораў» у хаўрусе са значнай часткай дзяржапарату, якая ва ўсіх галінах грамадска-дзяржаўнага жыцця выпальвае «напалмам» невуцтва, цемрашальства і манкурцтва, матчыну мову і саму дзяржаўнасць Беларусі.

У гэтых умовах перад ТБМ імя Францішка Скарыны, як і перад іншымі нацыянальна-патрыятычнымі згуртаваннямі, паўстаюць, акрамя статутных, іншыя задачы. Абараніць Беларусь ад чырвона-зялёнай, а па вялікаму рахунку, шэрай, як зямля-нядоўбіца, навалы. На «прэзідэнцкім» грунце ўзрасце, у лепшым выпадку, бананавая рэспубліка, ды яшчэ і без уласнага нацыянальна-культурнага аблічча. І таму зусім не зашкодзіла б навуччыцца абрабляць, як нашы далёкія продкі, зямлю, нават калі яна пакуль што неўрадлівая і неапрацаваная.

Як і ў **1990 годзе, калі пры непасрэдным удзеле ТБМ імя** Ф.Скарыны быў прыняты Закон аб мовах, а ў Вярхоўны Савет і ў іншыя органы прадстаўнічай улады «прайшло» некалькі дзесяткаў дэпутатаў, якія забяспечылі распрацоўку і прыняцце шэрагу важнейшых для нацыянальна-культурнага адраджэння нарматыўных актаў, не менш важнай задачай сяброў Таварыства застаецца справа актыўнага «ўваходжання» ў азначаныя вышэй структуры дзяржаўнай улады і кіравання.

На жаль, даволі значная заканадаўчая аснова нацыянальна-адраджэнскага руху Беларусі пастулова «размываецца» некампетэнтнымі, а часам і варожымі да беларускасці дзеяннямі шэрагу органаў выканаўчай улады іншых дзяржаўных структур. У гэтых умовах непазбежна паўстае задача ўсімі сіламі замацоўваць здабыткі ў галіне моўна-культурнага будаўніцтва на «мікраўзроўні»: у школах усіх тыпаў, ва ўстановах культуры, іншых сферах грамадска-культурнага жыцця.

Так, напрыклад, з жыцця вядома, што калі хоць адна сям'я катэгарычна настойвае на навучанні свайго дзіцяці на беларускай мове, то беларускі клас у адпаведнай навучальнай установе будзе адкрыты. Таму часам непрыемна ўражвае тое, што нават дасведчаныя, нацыянальна свядомыя бацькі маўкліва пагаджаюцца на закрыццё беларускіх класаў, школ. Як, напрыклад, мела месца сёлета ў Оршы, дзе няма ўжо ніводнага першага беларускага класа.

Багаты вопыт арганізацыйнага згуртавання Таварыства **на рэспубліканскім** узроўні, на жаль, далёка не ва ўсіх рэгіёнах Беларусі бярэцца «на ўзбраенне». Калі дзесяці рэспубліканскіх форумаў ТБМ атрымалі за апошнія гады вялікі розгалас у грамадстве. Мільёнымі тыражамі распаўсюджаны шматлікія звароты, заявы, пастановы і іншыя надзённыя дакументы, якія, безумоўна, аказалі станоўчы для справы пашырэння беларускай мовы ўплыў на грамадска-дзяржаўнае жыццё. Шосты год шчыруе на ніве адраджэння рэспубліканская газета «Наша слова». І гэта толькі бачная частка карпатлівай асветніцкай і арганізацыйнай дзейнасці Таварыства!

Арганізацыі ТБМ Ліды, Маладзечна, Менска, Салігорска, Гародні, Гомеля і некаторых іншых гарадоў і раёнаў падняліся пад цяжкім грузам праблем — і беларуская мова «пайшла» ў гэтых рэгіёнах на жыццёвы прастор. Чаму ж у шэрагу іншых культурных цэнтраў краіны Таварыства беларускай мовы не заняло важкага, пачэснага месца ў грамадскім жыцці? Можа не стае грамадскай актыўнасці сяброў ТБМ, іншых прыхільнікаў беларускай мовы? Чаму зніжаецца падпіска на многія каштоўныя для пашырэння асветніцкай дзейнасці беларускія перыядычныя выданні, і найперш на тыднёвік ТБМ «Наша слова»?

Пытанні... Пытанні.... На іх належыць знайсці адказ на з'ездзе Таварыства. А тым часам ідзе спаконвеку пакутлівы для беларусаў пошук ісціны, працягваецца зацятая праца з мэтай вяртання да грамадска-дзяржаўнага жыцця беларускай мовы...

**Я.А.ЦУМАРАЎ,**
**першы намеснік старшыні ТБМ імя Францішка Скарыны.**

*Але! Але!*

## Новы «рэферэндум», альбо Самавольства «па-беларуску»

1 верасня ў беларускамоўнай перадачы радыё «Свабода» ў рэпартажы карэспандэнткі Валянціны Арловай са сталіцы Беларусі прагучала літаральна наступнае: «У Менскай сярэдняй школе № 176 робіцца ўсё магчымае, каб ліквідаваць беларускамоўныя класы, перавесці іх на мову, якую любіць Лукашэнка. Так, настаўніца другога класа на сходзе бацькоў прапанавала ім пачаць навучанне дзяцей у 2 класе на расійскай мове. Калі ж большасць бацькоў не падтрымала жаданняў настаўніцы, вырашылі правесці «рэферэндум» — спытаць саміх дзяцей. Дзеці дружна выгукнулі — на беларускай! Настаўніца не здалася: пусціла ліст паперы з прозвішчамі дзяцей, супраць якіх бацькі павінны былі праставіць мову навучання свайго чада ў 2-м класе (у 1-м класе гэтыя дзеткі навучаліся па-беларуску). Вынікі наступныя: 13 бацькоў выбралі (пакінулі) беларускую мову навучання, 7 — падтрымалі настаўніцу, а двое напісалі, што ім усё роўна, на якой мове будуць вучыць іх дзяцей. Калі настаўніца ўбачыла вынікі сваёй «анкеты», яна са слязамі на вачах усклікнула: «Я же русская! Мы уже и учебники на русском языке приготовили!». Бачыце, якая была ў яе упэўненасць, што «перамога» ў «барацьбе» яна, бо на яе баку самавольства антыбеларускіх сілаў, пачынаючы ад дырэктара школы... (Можна не сумнявацца, што «руская» настаўніца даб'ецца свайго)». Далей журналістка расказала і аб падобных самавольствах у сярэдніх школах № 148, № 20. Дарэчы, у 148-й школе ў 1-м беларускамоўным класе вучылася ў выкладчыцы Жуковіч дачка сумна вядомага «сабораўца» з СС «Белая Русь» Азаронка — Кацярына. І калі настаўніца выказала сваю пагарду да сфабрыкаванага Азаронкам па заказу антыбеларускіх сілаў «фільма» («Нянавісць : Дзеці хлусні»), гэты надзвычай адыёзны рэжысёр забраў сваю дачку з класа Жуковіч, і зараз дырэктар 148-й школы намагаецца ад Жуковіч дабравольна адмовіцца ад беларускамоўнага класа, у якім засталося 8 вучняў, каб іх «рассыпаць» па расійскамоўных класах школы... Слухаў я ўсё гэта, і мне зрабілася страшна: як жа так?! Дзяржаўнай мовай на 1 верасня ўсё яшчэ заставалася мова беларуская! Дык чаму ж усе кінуліся шальмаваць беларускую мову, пазбаўляць законнага права грамадзян краіны навучаць сваіх дзяцей на роднай, да таго ж дзяржаўнай мове?! Расійскай мове яшчэ Вярхоўнай Радай Беларусі не нададзена статуса другой дзяржаўнай мовы краіны, як і ўсім іншым «пытанням» гэтак званага «рэферэндуму». А нават калі б і было нададзена расійскай права называцца другой дзяржаўнай мовай, то гэта зусім не павінна азначаць, што **першая дзяржаўная мова — БЕЛАРУСКАЯ** павінна «пайсці ў адстаўку», як гэтага дабіваюцца розныя шавіністычныя сілы з СС «Белая Русь», Ліберальна-дэмакратычнай партыі і іншыя падобныя, што нават у снах бачаць Беларусь у складзе Расійскай імперыі, дзе сапраўды беларускай мове не будзе месца...

У гэтай сувязі мяне здзіўляе пазіцыя саміх настаўнікаў-патрыётаў: чаму вы дазваляеце так панукаць сабою розным адшчапенцам і здраднікам?! Думаю, калі б беларусы-патрыёты паводзілі сябе больш упэўнена, настойліва, давалі ад «варот-паварот» усялякім шавіністам і манкуртам, тыя менш бы нахабнічалі... Бацькі таксама павінны праявіць больш рашучасці ў адстойванні сваіх правоў вучыць дзяцей на роднай мове. Безумоўна, зусім незразумелую пазіцыю заняло Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь (міністр В.Стражаў), калі накіравала ў раённыя аддзелы адукацыі лісты, дзе было напісана, што ў 1995-96 навучальным годзе «мову навучання дзяцей выбіраюць бацькі». Я быў проста ў глыбокім шоку: **а як жа Закон пра мовы Рэспублікі Беларусь?! Хто яго адмяняў?!** Разумею, што на міністра «націснулі» зверху ўсё тыя ж «ўладары», якія не карыстаюцца беларускай мовай, якая ім, як костка ў горле стала, але ж без бою здацца невукам ад асветы — гэта ужо проста ганьба і як беларусам, і як прафесіяналам!.. У адным з артыкулаў у «Настаўніцкай газеце», дарэчы, спадар Стражаў *горача адстойваў* **канцэпцыю ўсеагульнай беларускамоўнай адукацыі.** Гэта ў газеце. А што на справе?! Калі Вам сапраўды «перакрывалі кісларод», каб Вы далі «зялёнае святло» да вынішчэння беларускамоўнай адукацыі, Вы павінны былі на ўсю краіну заявіць пра гэты гвалт над сабою і асветай, а не моўчкі выконваць загады «ўнтэрпрышыбеевых», якія ў асвеце разбіраюцца, як пастух у электроніцы, або, у рэшце рэшт, падаць у адстаўку, што дало б Вам гонар і павагу патрыятычна настроеных грамадзян краіны, і нас, беларусаў далёкага і блізкага замежжа. Безумоўна, Беларусь сёння больш падобна на «бананавыя» краіны. Як кажуць, «прыехалі»: за што «галасавалі», тое і маеце! Думаю, што новы Вярхоўны Савет павінен перагледзець Канстытуцыю краіны, улічыўшы тое, што робіцца на Беларусі.

**Рышард ЯГЕЛОНЧЫК.**
**Украіна.**

*Наш каляндар*

## Чужая вайна

*(3 нагоды бітвы пры Лясной)*

*(Працяг. Пачатак на с.1.)*

армія і ледзь не была знішчана войскамі шведскага караля Карла XII. З гэтага часу на Беларусі гаспадарылі шведы. Гарады і маёнткі прыхільнікаў Расіі сістэматычна разбураліся і спусташаліся. Былі спалены Мір, Карэлічы, Ляхавічы, Нясвіж, разрабаваны Гародня, Навагрудак, Клецк, Пінск.

Расійскія войскі пастулова адыходзілі на ўсход да сваёй дзяржаўнай мяжы. Спецыяльныя атрады знішчалі харчовыя і фуражныя запасы, стваралі розныя перашкоды на шляху шведскай арміі. Па загаду Пятра І расійскія войскі спалілі Віцебск, Магілёў, Оршу, Мсціслаў. 3 ліпеня 1708 г. адбылася бітва каля мястэчка Галаўчын (Бялыніцкі раён). Перамога была на баку шведаў. Аднак, для паспяховага наступлення ў Карла XII ужо не было сіл. Шведскі кароль заручыўся падтрымкай украінскага гетмана Мазепы і ў сярэдзіне верасня накіраваўся на Украіну.

На злучэнне з галоўнымі сіламі Карла XII улетку 1708 г. з Рыгі выступіў корпус генерала Левенгаўпта: 16 тысяч чалавек, 17 гарматаў і абоз з 7 тысячамі вазоў боепрыпасаў і харчу. Расійскае камандаванне вырашыла не дапусціць іх злучэння. Гэта задача аблягчалася няўзгодненасцю дзеянняў шведаў у гэты крытычны момант. Пасля таго, як Карл XII павярнуў на Украіну, часткі шведскай арміі рухаліся паралельна на адлегласці 130—150 кіламетраў, але ніводная не ведала пра месцазнаходжанне другой. У сярэдзіне верасня, калі шведскі кароль пераправіўся цераз Сож ля Крычава і накіраваўся на поўдзень, корпус Левенгаўпта падыходзіў да Дняпра.

Для нанясення ўдару па Левенгаўпту быў сфарміраваны спецыяльны рухомы корпус (карвалант), які налічваў 7 тысячаў кавалерыстаў і 5 тысячаў пяхоты, у тым ліку лепшыя сілы расійскай арміі — Сямёнаўскі і Праабражэнскі палкі. Аперацыю ўзначаліў асабіста Пётр І.

19—21 верасня Левенгаўпт пераправіўся на левы бераг Дняпра каля Шклова і рухаўся да Прапойска (цяпер Слаўгарад), дзе разлічваў перайсці р.Сож. Расійскія войскі нагналі корпус 26 верасня каля в.Доўгі Мох (Чавускі р-н). Аднак, шведы паспелі пераправіцца цераз Рэсту і знішчыць мост. Наступным днём Левенгаўпт адвёў войска да в.Лясной, дзе вырашыў прыняць бой.

Галоўныя сілы шведаў, каб прыкрыць дарогу на Прапойск, занялі пазіцыю на паўночным захадзе ад вёскі Лясной. У тыле шведы зрабілі палявое ўмацаванне з вазоў (вагенбург). Напярэдадні асноўнай пазіцыі ў невялікім пералеску быў размешчаны перадавы атрад з 6 батальёнаў. Палавіну абоза з трохтысячным атрадам Левенгаўпт паслаў да Прапойска.

На досвітку 28 верасня расійскае войска пераправілася цераз Рэсту, дзвюма калонамі падышло да в.Лясной.

І а першай гадзіне дня пачало наступленне на галоўныя

*(Заканчэнне на с 3.)*

*Падрабязнасці*

# II. У абарону вольнага слова

## 3. Крыўды нашыя

Любой уладзе, якая дзейнічае ў неправавой дзяржаве, заўсёды перашкаджаюць «наводзіць парадак», «укараняць новы парадак», «павышаць адказнасць і дысцыпліну», «змагацца супраць носьбітаў чужой маральнасці» і г.д. газеты і часопісы, інфармацыйныя агенцтвы і бюлетэні. Адным словам — прэса. Хай не крыўдуе спадар Анатоль Вярцінскі — таленавіты паэт і чалавек, што ці не самы першы са сваім «ЛіМам» у перабудовачныя гады выступіў на абарону нацыянальных і дэмакратычных каштоўнасцяў беларускага грамадства супраць бальшавіцкага таталітарызму, але згаданы Закон аб друку і іншых СМІ фактычна з'яўляецца законам супраць друку. Дэмакратычнага, вольнага. Супраць — беларускага друкаванага слова.

Тая вайна, якую выканаўчая ўлада развязала супраць усяго нацыянальнага ў краіне, несумненна адбіваецца на жыццядзейнасці менавіта нацыянальнага друку або прэсы, якая з карыстаннем іншай мовы прапагандуе незалежніцкія ды адраджэнскія ідэі. І гэта вельмі зразумела, калі ўлічыць, як звужаецца інфармацыйная прастора ўжывання беларускай мовы і навучання беларускай мове ў сістэме адукацыі. Толькі адмова ад падручнікаў па гісторыі Беларусі, што выйшлі пасля 1991 года, чаго каштуе, каб у дзіцячую памяць закласці скажонае ўяўленне аб шляхах арганізацыі, развіцця ды пакручастым лёсе нашай дзяржавы! А наборы ў беларускія школы расійскамоў-ных класаў, чым фактычна нішчыцца статус нацыянальных вучэбных асяродкаў?..

Трэба, мусіць, на гэтыя з'явы зірнуць з больш высокай маральна-прававой пазіцыі, каб убачыць, як мутная хваля ўздымаецца ў акваторыі агульнай буры супраць прагрэсіўных СМІ. І гэта хваля мае сваю ахвярную адраснасць — патапіць нацыянальную беларускую прэсу, потым — беларускую кнігу, і нарэшце — беларускую асвету і адукацыю. А гэта ўсё разам узятае — адзін з галоўных складальнікаў беларускай культуры, таго, што нацыю робіць нацыяй і вызначае як нацыю.

Згадваючы даклады, якія прагучалі на Міжнародным кангрэсе, я найперш бачу ў крытычным становішчы нашага роднага друкаванага слова — прычыны палітычныя. Травеньскі рэферэндум тут — усяго толькі верхняя частка айсберга, які называецца палітыкай этнацыду, або вынішчэння нацыі як этнасу.

І я не магу не верыць народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну, які на згаданым кангрэсе сказаў з яго высокай трыбуны наступнае:

— ... **З кожнага народу выбівалася адчуванне самабытнасці, самастойнасці, гістарычнай памяці. А найболей з беларускага. Чужакі клапаціліся пра ягоны саманазоў, пра імя ягонай зямлі, хрысцячы яе то «Северо-западным краем», то «крэсамі всходнімі». Беларускую душу то абмаскальвалі, то апалячвалі, вытручвалі з яе ўсведамленне дзяржаўнасці, непадлегласці. Працавалі й працуюць цэлыя інстытуты ў прыватнасці Лубянкі, каб дэнацыяналізаваць «инородцев» (любімае слоўца вялікадзяржаўнікаў), каб зрушыць генетычны код былых насельнікаў імперыі, у прыватнасці беларусаў.**

Я разумею: дастойнага нашчадка славутых сыноў Беларусі — братоў Гарэцкіх, віцэ-прэзідэнта АНБ Радзіма Гарэцкага, ён расказаў пра тое, якія зараз цкаванні спытваюць тыя дзеячы Акадэміі навук, што рупяцца, каб акадэмічнае выданне выпускала ў свет беларускамоўныя кнігі. Сам вучоны, між іншым, вельмі сумуе з таго, што нават у кіёсках «амаль няма беларускамоўных газет і часопісаў, гандаль захапіла руская мова і што яшчэ горш — малапісьменныя бульварнага кшталту газеткі, нізкапробны дэтэктыў і парнаграфія. Купіць «ЛіМ», «Наша слова», «Голас Радзімы», «Полымя» і многія іншыя беларускамоўныя выданні амаль немагчыма. Няма падпіскі на гэтыя часопісы і газеты як у блізкім, так і ў далёкім замежжы, хаця, здавалася, гэта някепскі прыбытак, прычым у валюце».

Мяркую, сто разоў маюць рацыю і Рыгор Барадулін, і Радзім Гарэцкі, і прафесар-гісторык Анатоль Грыцкевіч, і журналістка Жанна Ліцвіна, якая нядаўна стала прэзідэнтам ствараемай Беларускай асацыяцыі журналістаў, і іншыя выступоўцы на гэтым аўтарытэтным форуме: з мовы нашай розныя знешнія нядобразычліўцы здзекваліся, памяць гістарычную з беларусаў выбівалі, на вольнае слова ў эфіры і ў друку стараліся і стараюцца накінуць аброць, а нацыянальную журналістыку растаптаць.

Але дзе ж мы, нацыянальная інтэлігенцыя, дзе наша пазіцыя, ва ўсёй гэтай прысавецкай, бальшавіцкай гісторыі ўдушэння беларушчыны? Асабліва — на апошнім этапе названага гістарычнага перыяду, калі было некалькі гадоў аслаблення такога ўдушэння, якое мы ахрысцілі нават трэцім Беларускім Адраджэннем?

## 4. Ёсць тутака наша віна...

Мусіць, нездарма ж Радзім Гарэцкі ў сваім дакладзе заклікаў сваіх калег, беларускіх вучоных, асабліва з Акадэміі навук Беларусі, «...**быць больш актыўнымі ў пытанні дзяржаўнасці, мовы, беларускасці, тым больш што перад імі ёсць такі яскравы прыклад, як папярэднік акадэміі — Інбелкульт, які быў сапраўдным цэнтрам беларускага нацыянальнага Адраджэння. Як далёка нам да яго!**»

Так, затурканы, бяспамятны, асіміляваны ў асноўнай сваёй масе народ на тым жа рэферэндуме «падыграў» уладаўтрымальнікам: прыняў антыбеларускае рашэнне і па моўным пытанні, і па сімволіцы. Але — чаму? Ды, мусіць, таму, што ў большасці сама нацыянальная інтэлігенцыя (не будзем лічыць невялічкую групу тых нацыянальных дэмакратаў, якія займаюцца грамадскай і палітычнай дзейнасцю на адраджэнскай ніве), па-першае, супакоілася, рашыла: вось, прынятыя Закон аб мовах, Закон аб адукацыі, у Канстытуцыі ёсць радок, што сведчыць за дзяржаўнасць беларускай мовы — справа нібыта зроблена, «працэс пайшоў». Значыцца, можна на гэтай ніве асабліва не шчыраваць.

Па-другое, зноў падвяла наша адвечная прыкарытнасць, невытлумачальнае імкненне быць бліжэй да маючых уладу і здрада ўласным жа прынцыпам.

Між іншым, Генадзь Бураўкін, карыстаючы эзопаўскую мову (а што рабіць, трэба ведаць, у які час прававога бязмежжа мы жывём), вывеў вобраз гэткага псеўдадэмакрата, дарэчы, канкрэтнага чалавека, журналіста, у сваім яскравым выступе на кангрэсе:

« — ... **Вось і зусім нядаўна, як кажуць, на свае вочы мы мелі магчымасць назіраць; як адзін наш папулярны калега, былы бойкі і іранічны франдзёр, закадычны сябра ўсіх дэмакратаў і інтэлектуалаў лёгка і хутка ператварыўся ў шматслоўнага афіцыйнага гаваруна з умела размытымі межамі дабра і зла, аб'ектыўнасці і ўгодніцтва, праўды і подлай хлусні. І газета ягоная імкліва пачала напаўняцца раздражнёнасцю і густа чырванець — можа, ад няёмкасці такога нечаканага пераўвасаблення, а, можа, ад натужлівых прэтэнзій на лідэрства ў зацятым паляванні на любоў вяльможных чытачоў...**

Да сказанага магу дадаць, што гэты шэраг можна было б папоўніць і некаторымі вядомымі беларускамоўнымі паэтамі, празаікамі, вучонымі-гісторыкамі, якім болей мілейшыя ідэі Славянскага сабора, ідэі абэцэдаршчыны і той мадэлі братэрства з расійскім народам, дзе народ беларускі — за «малодшага брата», за аб'ект далейшай асіміляцыі, дэнацыяналізацыі. Адны рэдагуюць іншамоўныя рэакцыйныя газеты, другія нават выконваюць сацыяльныя заказы пэўных палітычных сіл — практыкуюцца ў напісанні па-беларуску подлых вершыкаў супраць нацыянальных дэмакратаў. Зірніце, напрыклад, у падшыўкі «Цэнтральнай газеты», «Мы и время», «Товарища» — і вам стане зразумелым, як трэба змагацца супраць беларускасці, супраць незалежнасці Бацькаўшчыны, супраць тых нацыянальных інтэлігентаў, якія спрабуюць гуртавацца вакол ідэі Беларускага Адраджэння.

А колькі палак у колы свае ж, беларускія, пісьменнікі ставілі малодшым калегам па прызванні! Колькі таленавітых кніг загубілі, не знаходзячы ім месца ў выдавецкіх планах, адпраўляючы рукапісы на паўторныя рэцэнзіі! Аўтар гэтых радкоў некалі сам перажыў такое, хаця, урэшце рэшт, справядлівасць перамагла, і мне ўдалося сваю аповесць «абкніжыць» дзякуючы таму, што аб'ектыўную пазіцыю прынялі калегі з часопіса «Маладосць», якія апублікавалі мой твор.

Але ўся выдавецкая валтузня адбіла ахвоту, стала займацца чыста літаратурнай працай, хаця менавіта гэтым раілі мне займацца сур'ёзна ды аказвалі ў свой час усялякае садзейнічанне і Алена Васілевіч, і Яўген Лецка, і Генрых Далідовіч, і Уладзімір Дамашэвіч, і Яраслаў Пархута, і Сцяпан Кухараў, і Генадзь Бураўкін, і Янка Сіпакоў. Дзякуй ім за гэта. Але хто і дзе рупіцца з усёй зычлівасцю і прафесіяналізмам цяпер пра літаратурны маладняк? Дзе ён, яскравы, таленавіты і нацыянальна свядомы, малады пісьменнік, сягоння, пасля таго як мінула каля дзесяці гадоў з моманту громкага абвяшчэння пра сябе «Тутэйшых»?

Так, мы ўласнымі рукамі неаднойчы, быццам мімаходзь, губілі нацыянальную культуру, заміналі ёй у развіцці. Мы дэвальвавалі і літаратурнае слова свайго народа. Успомніце 60-я і 70-я гады, калі на кніжных паліцах валяліся нераскупленыя кнігі-«жуйкі», кнігі-«зануды», якія атрымалі характарыстыку вельмі кідкім і дакладным іранічным назовам — «Калі сліпаюцца вейкі». Канешне, сярод іх не было твораў Васіля Быкава, якога цкавала ўся капээсэсаўская рацы: кожная аповесць гэтага чалавека была нарасхват. Ніхто не думаў, на якой мове выдаваліся вострасюжэтныя, захапляльныя раманы Уладзіміра Караткевіча, дакументальныя рэчы Алеся Адамовіча. Гэтыя пісьменнікі разам з Быкавым прымушалі беларусаў задумацца пра сваю нядаўнюю і даўнейшую гісторыю. раскупляліся вершы Ларысы Геніюш, Яўгеніі Янішчыц, Раісы Баравіковай, Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна, іншых паэтаў, у якіх, напрыклад, аўтар гэтых радкоў вучыўся адчуваць хараство навакольнага свету, людскую дабрыню беларускіх мужчын і жанчын, непасрэднасць дзяцей, з якіх і складаецца, уласна, наш народ. У іх, самародкаў, я вучыўся культуры эмоцый, пачынаючы ад захаплення прыгожым і канчаючы гневам супраць усяго подлага...

І тым не менш, прыкарытнасць некаторых «наменклатурных» літдзеячаў з мінімумам літаратурных здольнасцяў і максімумам магчымасцяў друкавацца і выдавацца, іх неўтаймаванасць у сваім нахабстве, спарадзіла ў чытаючай публіцы непавагу да беларускага слова, на якое была перанесена непавага да аўтараў, збудавала псіхалагічны бар'ер на шляху беларускага твора, які мы яшчэ не вельмі хутка разбурым.

А колькі шкоды ўжо ў эпоху перабудовы нанесла роднаму слову імкненне беларускіх журналістаў і літаратараў адраджаць «дарэформенную» мову — «тарашкевіцу»! Нічога не маючы супраць таго, каб гістарычная праўда і тут узяла сваё, я ўсё ж маю гонар заявіць: нельга было бегчы тут наперад паравоза. Трэба было ўсё ж дамагчыся той жа рэформы на карысць «тарашкевіцы», пачакаць, не дапушчаць таго, каб з адной мовы зрабіць ажно тры: «наркомаўку», «тарашкевіцу» і мову з рэкамендацыямі ТБМ аб ужыванні мяккага знака. Дык, прабачце, якое ж слова мы хочам адрадзіць? Вось чаму мае знаёмыя іншамоўныя калегі (а яны да беларускай культуры і літаратуры ставяцца з павагай і любоўю) мне неаднойчы казалі: ды разбярыцеся вы, беларусы, калі ласка, з тым, чаго хочаце ў гэтай справе! Не нашкодзьце самім сабе...

Так, ад нас, падкрэсліваю яшчэ раз, ад нас саміх шмат што залежыць у працэсе адраджэння.

Вось чаму мне, напрыклад, зразумелы клопат Зоры Кіпель, вялікай спрыяльніцы беларускага слова на амерыканскай зямлі, якая зазначыла ў сваім цікавым выступленні, што «сацрэалізм згубіў беларускую літаратуру, беларускую кнігу». Дадам — і беларускую мову. Праўда, зазначу зноў: самае таленавітае ўсё роўна даходзіла да чытача. Таму на гэтых талентах яшчэ і трымаецца роднае слова. Таму найпершая задача нацыянальнай журналістыкі, прэсы гэта слова абараніць, а журналістыкі рускамоўнай дапамагчы ў святой справе калегаў. Бо сёння пайшло вынішчэнне, агрэсіўнае і шчырае, якім толькі шчырым бывае вандалізм, цэлага пласту славянскай культуры, пласту еўрапейскай культуры наогул.

Не дзіўна, што Другі Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры прыняў шэраг выніковых дакументаў, якія заклікаюць грамадства краіны, яе ўлады, інтэлігенцыю ратаваць беларускае друкаванае слова, патрабуюць спыніць этнацыд у адносінах да карэннай нацыі Рэспублікі Беларусь.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**удзельнік Другога Міжнароднага кангрэса ў абарону дэмакратыі і культуры, спецыяльны карэспандэнт «Нашага слова».**

*Наш каляндар*

# Чужая вайна

*(З нагоды бітвы пры Лясной)*

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1 і 2.)*

сілы Левенгаўпта. Дзве гадзіны працягваўся жорсткі бой. Шведы неаднаразова адбівалі атакі і самі пераходзілі ў контратакі. Да трох гадзін дня расійцы змаглі захапіць галоўную пазіцыю Левенгаўпта, шведы адышлі за вагенбург, кінуўшы на полі бітвы 8 гармат. Гэты цяжкі бой настолькі знясіліў праціўнікаў, што працягваць бітву яны ўжо не маглі.

Калі пад вечар расійцам на дапамогу падышоў чатырохтысячны атрад Баура, бітва разгарэлася з новай сілаю. На падыходах да вагенбурга завязаўся жорсткі рукапашны бой. Расійцы змаглі адцясніць шведаў на левым флангу і захапіць мост цераз р.Ляснянку на Прапойскай дарозе. Але ў гэты час на дапамогу шведам падышоў 3 тыс. авангард. Яны атакавалі правы фланг расійцаў і адбілі дарогу на Прапойск. Аднак, развіць поспех у шведаў не было сілы, і яны абмежаваліся абстрэлам пазіцый непрыяцеля. Прыцемкі і раптоўная снежная бура спынілі бітву. Ноччу шведы непрыкметна перайшлі р.Ляснянку і накіраваліся да Прапойска. Параненых, абоз і ўсе гарматы яны пакінулі на месцы бітвы. Расійцы даведаліся пра адступленне праціўніка толькі раніцаю 29 верасня. Для праследавання шведаў Пётр І выслаў некалькі палкоў драгунаў і казакаў. Недалёка ад Прапойска яны дагналі ар'ергард Левенгаўпта і ў кароткім баі знішчылі яго, захапіўшы некалькі сот чалавек у палон.

Да Прапойска рэшткі корпуса Левенгаўпта дайшлі, але Сож перайсці не змаглі, таму што процілеглы бераг быў заняты расійскімі драгунамі. Тады Левенгаўпт, каб выратавацца, загадаў кінуць абоз, пасадзіў пяхоту на абозных коней і рушыў уніз правым берагам р.Сож. Толькі праз два тыдні рэшткі корпуса Левенгаўпта (каля 7 тыс.) злучыліся з галоўнымі сіламі Карла XII каля Старадуба.

У бітве каля Лясной расійцы страцілі больш 4 тысячаў забітымі і параненымі, а шведы — у два разы больш, а таксама ўсю артылерыю (17 гармат) і частку абоза.

Перамога пры Лясной мела для Расіі велізарнае маральнае і ваенна-палітычнае значэнне — садзейнічала перамозе пад Палтаваю ўлетку 1709 г. і выніку Паўночнай вайны на карысць Расіі.

Паводле Ніштацкага мірнага пагаднення 1721 г., якім скончылася вайна, Расія атрымала выйсце да Балтыйскага мора. Да ліку краін-пераможцаў у Паўночнай вайне адносілася і Рэч Паспалітая. Нягледзячы на тое, што краіна панесла велізарныя страты, у палітычным плане яна нічога не набыла. Вайна значна аслабіла яе эканамічны і ваенна-палітычны патэнцыял, які быў падарваны яшчэ ў сярэдзіне XVII ст. крывавай вайной з Маскоўскай дзяржавай (1654—1667 гг.). Усё гэта ўрэшце рэшт прывяло да страты незалежнасці, падзелу Рэчы Паспалітай і ўключэння Беларусі ў Расійскую імперыю.

**Уладзімір ПАШКЕВІЧ.**

